Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 22 920.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 2-36-32-89

# НАВІНЫ



Пятніца, 18 верасня 1998 г. № 99 Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 кастрычніка 1997 г.

## Дзень нараджэння Клімава адзначылі пікетам

**Актывісты Хартыі-97 і Аб'яднанай грамадзянскай партыі праводзілі ўчора ў Мінску пікет у абарону дэпутата Андрэя Клімава, які ўжо восьмы месяц знаходзіцца ў следчым ізалятары. Учора Клімаву споўнілася 33 гады.**

Калі гэты нумар падпісваўся ў друк, пікет толькі пачынаўся. Акцыя была санкцыянаваная гарадскімі ўладамі, якія дазволілі яе правядзенне ў скверы непадалёк ад «валадаркі», дзе сядзіць А.Клімаў. Паколькі ў Андрэя дзень нараджэння, то пікетчыкі выйшлі не толькі з плакатамі-патрабаваннямі неадкладна вызваліць дэпутата, але прынеслі з сабою таксама святочны торт, каб тут жа ў скверы адзначыць 33-годдзе Клімава разам з ягонымі блізкімі.

Як нам паведаміла жонка Андрэя Клімава Таццяна, апошні раз яна бачыла мужа амаль 4 месяцы таму. Нагадаем, што падчас знаходжання ў СІЗО Андрэй два разы аб'яўляў галадоўку, а таксама тры тыдні правёў у турэмным шпіталі. Урачы выявілі ў яго ішымічную хваробу сэрца, аднак у медыцынскім заключэнні запісалі, што стан здароўя Клімава дазваляе ўтрымліваць яго ў турме. Адвакаты Клімава некалькі разоў падавалі хадайніцтвы аб змяненні яму меры стрымання, але безвынікова. Дарэчы, чарговае хадайніцтва разглядаецца сёння ў Маскоўскім райсудзе сталіцы. Клімаў па-ранейшаму адмаўляецца даваць следчаму паказанні, пратэстуючы такім чынам супраць свайго незаконнага арышту як дэпутата Вярхоўнага Савета.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Інцыдэнт у БДУ

**Апошнім часам у Беларусі распладзілася нямала прыватных сілавых структураў, якія з гонарам называюць сябе службамі аховы. Часам такія «канторы» значна перавышаюць свае функцыі і бяруць на сябе паўнамоцтвы дзяржаўных праваахоўных органаў.**

У сераду на тэрыторыі універсітэцкага гарадка ў Мінску «байцы» са службы аховы БДУ затрымалі актывістаў Хартыі-97 Сяргея Кур'яна і Галіну Юрыну, якія раздавалі студэнтам праваабарончыя бюлетэні Хартыі. Пяць чалавек у цывільным завялі апазіцыянераў у нейкае службовае памяшканне і заявілі, што тыя незаконна распаўсюджваюць друкаваную прадукцыю. Па словах Юрынай, адзін з гэтых ахоўнікаў, які хваліўся свайм членствам у БПСМ, незаконна абшукаў машыну Сяргея Кур'яна. Толькі пасля настойлівых патрабаванняў апазіцыянераў ахоўнікі выклікалі міліцэйскі нарад, які даставіў Юрыну і Кур'яна ў Маскоўскі РАУС Мінска. Там у іх узялі тлумачэнні па факту інцыдэнту, пасля чаго вярнулі канфіскаваную літаратуру і адпусцілі.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Мужыкі адпомсцілі?

**У вёсцы Гарадзец Кобрынскага раёна невядомыя знялі ноччу з будынка сельсавета чырвона-зялёны сцяг.**

Міліцыя ў роспачы, нават не ведае, каго падазраваць. Сярод вяскоўцаў няма ніводнага чалавека, які меў бы дачыненні з якой-небудзь апазіцыйнай партыяй. Мясцовыя жыхары паміж сабой кажуць, што сцяг хутчэй за ўсё зняў нехта прыезджы. Але ж тойсёй гаворыць, што гэта маглі зрабіць мясцовыя мужыкі, раззлаваныя тым, што ні ў вёсцы, ні ў райцэнтры няма ў продажы танных цыгарэтаў. Вось і вырашылі спагнаць сваю злосць...

**Віктар ЯРАШУК**



*Многім вясковым школьнікам даводзіцца замест партфеля браць вядро.*

## Разам з Расіяй на прарыў ізаляцыі

**Учора міністр замежных справаў Іван Антановіч на брыфінгу для журналістаў заявіў, што *чакае хвалю расійска-беларускай інтэграцыі*. Больш таго, у гэты працэс, на думку міністра, могуць уключыцца іншыя краіны, якім пагражае абвастрэнне крызісу.**

Іван Антановіч станоўча ацаніў перамены ў расійскай уладзе, куды *«прыйшла група вопытных дзяржаўнікаў, яны ведаюць сітуацыю і сусветную кан'юнктуру, добра адчуваюць індывідуальнасць Расіі ў сучасным сусветным працэсе»*. Міністр прымае меры па ўмацаванні інтэграцыі, у прыватнасці, стануць *«больш цеснымі кансультацыі аб сумесных пазіцыях на сусветнай арэне ў абарону Расіі і Беларусі»*. Па ягоных словах, *«цяпер на Захадзе разгортваецца моцная, разбуральная прапаганда супраць Расіі»*.

Іван Антановіч лічыць, што *«спроба ізаляцыі Беларусі, якая разгортваецца даволі ўмела на некаторых еўрапейскіх прасторах, распаўсюджваецца цяпер на Расію»*. Менавіта таму *«мы будзем сумесна змагацца і выпрацоўваць агульныя праграмы выжывання»*. Іван Антановіч гатовы «падзяліцца вопытам» са сваімі расійскімі калегамі накont таго, як трэба змагацца з Захадам.

Потым Іван Іванавіч распавёў пра сваю перапіску. У мі-



ністэрства замежных справаў Балгарыі ён накіраваў пісьмо *«ў сувязі з бестактоўнымі, развязнымі інтэрв'ю балгарскага пасла спадара Ганчава, які з'ехаў дахаты і ўпершыню заявіў, хаця за чатыры гады знаходжання ў Мінску ні разу не нанёс візіту ў беларускае МЗС»*. У Сафіі пасол Ганчаў, па словах міністра, *«у поўны голас пачаў выказваць свае ацэнкі наконт сітуацыі ў Беларусі»*.

Для разрадкі напружанасці вакол Драздоў, па словах Івана Іванавіча, у Мінск прыязджаюць нямецкія, французскія і італьянскія тэхнічныя эксперты, каб *«паглядзець альтэрнатыўныя варыянты размяшчэння рэзідэнцыяў»*. Кіраўнік знешнепалітычнага ведамства падкрэсліў, што *«вяртання да мінулага не будзе»*. Беларуская ўлады не дазволяць паслам пераначаваць у сваіх рэзідэнцыях у Драздах нават адну ноч, як яны гэтага просяць.

І.Антановіч запэўніў, што Беларусь выконвае палажэнні Венскай канвенцыі, якія датычаць *«маёмасці паслоў у рэзідэнцыях»*. Яна, па словах міністра, *«недатыкальная і захаванне яе гарантуецца да пераезду»*. Праўда, трапіць да гэтай маёмасці паслы не маюць ніякай магчымасці ўжо працяглы час.

Сёння міністр Антановіч пабывае на прыёме ў прэзідэнта Лукашэнкі і збіраецца перадаць свайму шэфу запрашэнне наведаць Турцыю 28-30 кастрычніка *«для ўдзелу ў святкаваннях 75-годдзя турэцкай дэмакратыі»*.

Праўда, І.Антановіч сказаў, што прэзідэнт Лукашэнка *«цяпер не схільны куды-небудзь выязджаць»* з-за крызісу ў Расіі.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

### СНД

***Сустрэча прэм'ер-міністраў краінаў СНД, прызначаная на 25 верасня, хутчэй за ўсё, будзе перанесеная на больш позні тэрмін. Пра гэта паведаміў выканаўчы сакратар СНД Барыс Беразоўскі.***

### Візіты

***Учора ў Мінск прыбыла парламенцкая дэлегацыя з Кувейта. Будуць сустрэчы з дэпутатамі прэзідэнцкага парламента, а таксама ў МЗС і іншых ведамствах.***

### Крызіс

***На Мазырскім нафтаперапрацоўчым заводзе рэзка скарачаюцца аб'ёмы перапрацоўкі нафты. Асноўная прычына — скарачэнне паставак расійскай нафтавай кампаніяй «Слаўнафта», што выклікана запазычанасцю Беларусі за раней пастаўленую нафту.***

### Экалогія

***Па рашэнні Саўміна ў Астравецкім раёне Гродзенскай вобласці створаны рэспубліканскі ландшафтны заказнік «Сарачанскія азёры» агульнай плошчай звыш 13 тысяч гектараў. Сарачанскія азёры і прылеглыя да іх тэрыторыі з'яўляюцца адной з самых маляўнічых мясцін Астравеччыны.***

## Па слядах бацькі

**Старэйшы сын прэзідэнта Беларусі Віктар Лукашэнка выказаў жаданне служыць у пагранічных войсках.**

Як паведаміла маці Віктара Галіна Лукашэнка, яе сын пойдзе служыць восенню гэтага года. Верагодна, лейтэнант Віктар Лукашэнка, які сёлета скончыў факультэт міжнародных адносінаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта і зараз працуе ў міністэрстве замежных справаў, будзе несці службу на чацвёртай заставе Брэсцкай пагранічнай групы, дзе ў свой час служыў ягоны бацька. Такое пажаданне неаднаразова выказваў Аляксандр Лукашэнка.

*БелаПАН*



## Апазіцыя паехала ў Швецыю

### А.Лукашэнка рыхтуе выбары

**На гэтым тыдні ў Швецыю адправілася група беларускіх палітыкаў.**

Сярод іх — дэпутаты Вярхоўнага Савета 13-га склікання Мечыслаў Грыб, Анатоль Лябедзька, Уладзімір Нісцюк, а таксама Уладзімір Анцулевіч з «Беларускай перспектывы», Сяргей Паплкоў з БНФ, былы старшыня Канстытуцыйнага суда Валерый Ціхіня. Мэта паездкі — вывучэнне вопыту правядзення выбарчай кампаніі ў мясцовыя органы улады. Задача выглядае дастаткова актуальнай, паколькі, як заявіла старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына, летам будучага года афіцыйныя ўлады Беларусі маюць намер арганізаваць выбары ў мясцовыя Саветы.

Дарэчы, 16 верасня Аляксандр Лукашэнка прыняў Лідзію Ярмошыну. Кіраўнік Цэнтрвыбаркама паінфармавала прэзідэнта аб некаторых аспектах маючай адбыцца кампаніі па выбарах у мясцовыя Саветы, тэрмін паўнамоцтва якіх сыходзіць у чэрвені 1999 года. Падчас сустрэчы абмяркоўвалася таксама агульная канцэпцыя праекта Закона аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў, які плануецца разгледзець увосень. Акрамя таго, прэзідэнту быў прадстаўлены праект Выбарчага кодэкса, які будзе рэгуляваць пытанні правядзення рэферэндуму і выбараў.

*БелаПАН*

*Беларусь — Расія*

## Вазьміце тавар

**Беларускі пасол у Маскве Уладзімір Грыгор'еў сустрэўся 15 верасня з першым віцэ-прэм'ерам урада Расіі Юрыем Маслюковым і кіраўніком расійскага Цэнтральнага банка Віктарам Герашчанкам.**

Як паведамілі беларускія афіцыйныя крыніцы, У.Грыгор'еў выклаў пазіцыю беларускага боку аб неабходнасці доўгатэрміновай увязкі эканомік дзвюх краінаў. У сувязі з гэтым, адзначыў ён, трэба дакладна вызначыць заказ Расіі на беларускую прадукцыю з улікам распрацаванай у Беларусі праграмы развіцця прамысловасці да 2015 года і іншых доўгатэрміновых праектаў. Беларускі пасол таксама выказаў просьбу вярнуцца да разгляду пытанняў аб разліках за пастаўкі ў Беларусь расійскага газу і аб магчымасці прадастаўлення звязанага з гэтым крэдыту.

*Расія — Украіна*

## Ельцын пагаворыць з Кучмам

**Сёння ў адной з падмаскоўных рэзідэнцыяў прэзідэнта Расіі адбудзецца сустрэча Барыса Ельцына з прэзідэнтам Украіны Леанідам Кучмам.**

Паралельна з гэтым пройдуць перамовы прэм'ерміністра Расіі Яўгена Прымакова з кіраўніком украінскага Кабінета міністраў Валерыем Пуставойценкам. Бакі плануюць абмеркаваць праблемы ажыццяўлення экспартна-імпартных паставак, пошлін (у тым ліку на цукар), дэлімітацыі межаў, сумеснай вытворчасці самалёта АН-70, а таксама перспектывы ратыфікацыі «вялікага» расійска-ўкраінскага дагавора. Па выніках сустрэчы прэзідэнтаў Украіны і Расіі плануецца падпісаць два дакументы — аб статусе расійскіх ваеннаслужачых, якія праходзяць службу на Чарнаморскім флоце ў Севастопалі, і пагадненне аб навігацыі на Чорным моры.

*УНІАН — БелаПАН*

## Грамадскасць патрабуе стварыць нацыянальны універсітэт

**Адкрыць універсітэт з беларускай мовай навучання — такое патрабаванне неаднаразова гучала на мітынгу, які адбыўся ў сераду на плошчы Я.Коласа ў Мінску.**

Актывісты Таварыства беларускай мовы, якія наладзілі акцыю, а таксама іншыя выступоўцы ўпэўненыя, што змяншэнне колькасці беларускіх класаў тлумачыцца не толькі дзеяннямі чыноўнікаў-русіфікатараў. *«Шмат дзяцей жадаюць вучыцца па-беларуску, але бацькі мяркуюць, што ў рускамоўных ВНУ дзеці будуць мець праблемы, таму паддаюцца на ўгаворы чыноўнікаў аб «добраахвотным» пераводзе дзяцей з беларускіх у рускія класы»*, — распавядалі выступоўцы. На думку ўдзельнікаў мітынгу, пакуль у краіне не з'явяцца беларускамоўныя вышэйшыя навучальныя ўстановы, сітуацыя не зменіцца.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## «Сталіца» пасля еўрарамонту

*Беларуская тэлерадыёкампанія вырашыла асвоіць FM-эфір*

**З панядзелка, на частаце 103,7 FM пачне вяшчанне дзяржаўная радыёстанцыя «Сталіца».**

Яна створаная на базе былога мінскага абласнога радыё, якое вызначалася выключнай адыёзнасцю некаторых сваіх перадачаў. Якой будзе новая «Сталіца» — цяжка сказаць. Плануецца, што 40 працэнтаў эфірнага часу будуць займаць інфармацыйныя выпускі і аўтарскія праграмы. Па словах галоўнага рэдактара «Сталіцы» Ігара Ганчарука, перавага будзе аддавацца інфармацыі з Мінска і Мінскай вобласці, хоць вяшчанне радыёстанцыі будзе ахопліваць 80 працэнтаў тэрыторыі Беларусі. Відаць, улады ўскладаюць на радыёстанцыю вялікія спадзяванні, інакш навошта было б укладаць вялікія грошы ў еўрарамонт памяшкання рэдакцыі ды набываць самую сучасную студыйную і камп'ютэрную тэхніку.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Хворых стала больш

**У першым паўгоддзі гэтага года ў Мінску значна ўзрасла колькасць захворванняў на рак і туберкулёз.**

Пра гэта паведаміў на прэс-канферэнцыі старшыня камітэта па ахове здароўя Мінгарвыканкама Генрых Карніцкі. Па ягоных дадзеных, у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года колькасць анкалагічных хворых павялічылася на 23,4 працэнта, колькасць хворых на туберкулёз — на 28 працэнтаў. Колькасць насельніцтва Мінска за першае паўгоддзе паменшылася на 0,9 тысячы і склала 1 млн. 715,6 тысячы чалавек.

*БелаПАН*

## Бабруйск замерзне?

**Жыхароў прыватных дамоў Бабруйска зноў чакае пагроза зімаваць без паліва.**

У горадзе каля 5.000 такіх дамоў. Звычайна для іх ацяплення выкарыстоўваўся торфабрыкет. Апошнія гады рэгулярна паўстае адна і тая ж праблема — торфу не хапае. Патрэбна амаль 10 тысяч тон, а пастаўлена ўсяго толькі 328 тон.

Пра гэтую бяду дырэктар прадпрыемства Мікалай Багацішчай «сігналізаваў» яшчэ вясной. Штодзённа да яго звяртаюцца дзесяткі людзей, якія стаяць на чарзе з мінулага года. Але ён нічым не можа дапамагчы. Прычына ў дрэннай працы торфанарыхтоўчых прадпрыемстваў. Яны ўвесь час спасылаюцца на дрэннае надвор'е і рэгулярна правальваюць заказы бабруйчан.

**Іван ЗАСАДА**

# Фядуту папярэдзілі

**Аглядальніку «Белорусской деловой газеты» Аляксандру Фядуту пракуратура вынесла «афіцыйнае папярэджанне аб недапушчальнасці парушэння закона».**

Гэты дакумент уручыў журналісту 16 верасня прадстаўнік пракуратуры С.Пархімовіч. З папярэджання вынікае, што падставай для прымянення санкцыі да А.Фядуты стаў ягоны артыкул «Наш маленькі Клан-Дайк», апублікаваны ў «Белорусской деловой газете» 9 ліпеня 1998 года. У гэтай публікацыі аўтар прывёў вытрымку з заявы арыштаванага, а зараз нябожчыка Валерыя Ткачова, у адрас генеральнага пракурора Алега Бажэлкі. Валерый Ткачоў — былы афіцэр КДБ, потым прадпрымальнік, утрымліваўся ў следчым ізалятары і па афіцыйнай версіі скончыў жыццё самагубствам у камеры.

Як гаворыцца ў афіцыйным папярэджанні, у адпаведнасці з законам аб друку, *«не падлягаюць апублікаванню або абнародаванню незавершаныя вытворчасцю матэрыялы дазнання, папярэдняга следства і судовых справаў без пісьмовага дазволу адпаведнай асобы, якая робіць дазнанне, следчага ці суддзі, а таксама матэрыялы, атрыманыя ў выніку правядзення аператыўна-вышуковай дзейнасці»*. Як лічыць рэспубліканская пракуратура, журналіст Аляксандр Фядута сваімі дзеяннямі ў поўнай ступені парушыў ахоўваемую законам тайну перапіскі і не меў прадугледжанага заканадаўствам дазволу на публікацыю дакумента, які знаходзіцца ў незавершанай вытворчасцю крымінальнай справе.

Апрача таго, як указваецца ў афіцыйным папярэджанні, у артыкуле «Наш маленькі Клан-Дайк» *«дапушчаны меркаванні і выказванні, якія прыніжаюць гонар і годнасць прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Лукашэнкі А.Р.»*.

Заключная частка дакумента, падпісанага С.Пархімовічам, гаворыць: *«Пры паўтарэнні падобных проціпраўных дзеянняў у далейшым да Вас могуць быць прыменены адпаведныя меры рэагавання»*. Такім чынам, калі раней існавала практыка вынясення беларускімі ўладамі афіцыйных папярэджанняў у цэлым сродку масавай інфармацыі, то зараз зафіксаваны выпадак афіцыйнага папярэджання ў адрас асобнага журналіста.

*БелаПАН*

# Лепш не працаваць?

**Пінская падатковая інспекцыя праверыла арэнднае прадпрыемства «Гідрасельмаш» і налічыла штраф у памеры каля 900 мільёнаў рублёў.**

Здаецца, добра працуючы, правяраючыя, клапоцяцца пра дзяржаўныя інтарэсы. Але ж калі паглядзець на гэтую праблему сапраўды па-дзяржаўнаму, атрымліваецца не ўсё так проста.

Мяркуйце самі. «Гідрасельмаш» вырабляе сельскагаспадарчыя машыны, якія карыстаюцца вялікім попытам спажыўцоў. Калгасам і саўгасам прадукцыя прадпрыемства жыццёва неабходная. Але ж грошай набыць яе вяскоўцы не маюць. Розніцца ў іх ёсць магчымасць толькі сваёй прадукцыяй. Аднак прадпрыемства не можа аддаваць свае вырабы па бартэры, патрэбныя грошы. Каб іх атрымаць, «Гідрасельмаш» наладзіў сетку дылераў. Такая сістэма задавальняла ўсе бакі. Прамыслоўцы атрымлівалі за сваю прадукцыю грошы. Калгасы і саўгасы набывалі неабходныя машыны, разлічваючыся сваёй прадукцыяй. Безумоўна, зараблялі і дылеры. Самае галоўнае, што сельскагаспадарчыя машыны даходзілі да спажыўцоў.

Кантралёры палічылі інакш. На іх думку, «Гідрасельмаш», збываючы сваю прадукцыю праз сетку дылераў, страчвае правы на льготнае падаткаабкладанне. Зыходзячы з гэтага, прадпрыемству і выставілі велізарны штраф. Атрымліваецца, лепш не працаваць, чым шукаць рынкі збыту сваёй прадукцыі. Вось такі «рынкавы сацыялізм».

**Віктар ЯРАШУК**

*КАДРЫ*



## Вакол Леніна ўсё строга

Бабруйскі гарвыканкам забараніў мясцовым аматарам ролікавай язды выкарыстоўваць для гэтага плошчу Леніна, паколькі падобныя рэчы не дапушчальныя побач з такім помнікам.

Гэтае месца ўжо даўно аблюбавалі дзеці на ролікавых дошках. На плошчы даволі шмат прасторы, ёсць дзе разагнацца. Але цяпер займацца гэтым стала рызыкоўна — міліцыя пільна сочыць, каб на плошчы не было ніякіх ролікаў.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Рэха мінулых падзеяў

**Пра тое, як Аляксандр Лукашэнка сустракаўся ўлетку з беларускімі пісьменнікамі, усе ўжо паспелі забыцца. І вось прэзідэнцкая адміністрацыя вырашыла нагадаць пра «эпахальную» падзею.**

У сераду, 16 верасня, асноўныя беларускія дзяржаўныя газеты надрукавалі скарочаную стэнаграму размовы Аляксандра Лукашэнкі з пісьменнікамі пад гістарычнай назвай «Прэзідэнт — пісьменнікі: дыялог у імя Беларусі». Стэнаграма заняла большую частку газетнай плошчы трох выданняў — «Советской Белоруссии», «Народнай газеты» і «Звязды». Асабліва не пашанцавала чытачам «Народнай газеты» — увесь серадовы нумар складаўся толькі з тэксту размовы прэзідэнта з пісьменнікамі і рэкламы. Ніякай іншай інфармацыі цікаўны чытач знайсці не мог.

Віншуем калегаў з выдатнай аператыўнасцю — не прайшло і паўтара месяца з дня размовы, а матэрыял ужо з'явіўся ў друку. Прызнаемся шчыра — мы б так не змаглі.

**Міхась КАРПОВІЧ**

*Здарэнні*

## Стрэлы і праверкі на дарогах

Як нам стала вядома, сын вядомага мастака Міхаіла Савіцкага Андрэй трапіў у даволі непрыемную гісторыю.

Паводле інфармацыі з нашых крыніцаў, 6 верасня з акна дома на вуліцы Беламорскай у Мінску, дзе жывуць Савіцкія, адбыўся стрэл драбавым патронам з газавага пісталета ў бок вуліцы. У гэты самы час па вуліцы праходзіў вучань шостага класа адной з мінскіх школаў. На шчасце, хлопчык сур'ёзна не пацярпеў. У мінскай міліцыі нам пацвердзілі, што такі выпадак сапраўды быў, але нічога не змаглі сказаць пра імя «стралка».

Тым часам у мінулы аўторак у Мінску сярод гаражоў на вуліцы Якубава быў знойдзены труп жанчыны 20-22 гадоў, смуглявай і чорнавалосай. На жанчыне былі чорныя джынсы, чорныя туфлі і чырвоная майка. На сведчанні міліцыі, прызнакаў гвалтоўнай смерці жанчыны няма. На руцэ нябожчыцы — татуіроўка «ВЕК». Міліцыя працягвае высвятляць абставіны смерці жанчыны.

У гэты ж дзень 14-гадовы школьнік выбіў шыбу ў офісе адной з мінскіх фірмаў, што знаходзіцца на першым паверсе, і вынес з офіса прынтэр, настольную лямпу, а таксама... 40 нажніцаў. Па «гарачых слядах» малалетні злодзей быў затрыманы.

Працягваецца ўпартая барацьба паміж міліцыянтамі і камерсантамі. Камерсанты хочуць хоць нешта зарабіць на таварах беларускай вытворчасці і вывозяць з Беларусі ўсё, што толькі могуць. Міліцыя ў сваю чаргу абавязаная выконваць нядаўні дэкрэт прэзідэнта «Аб неадкладных мерах па абароне спажывецкага рынку» і таму правярае як мага больш грузавога транспарту, што едзе па беларускіх дарогах.

Праверка грузаў вядзецца не толькі на беларуска-расійскай мяжы, але на ўсіх міліцэйскіх пастах. У тым ліку і на выездзе з Мінска. Толькі за апошнія некалькі дзён мінская міліцыя затрымала фургон з пяцьцю тонамі макаронных вырабаў і шасцю тысячамі пакетаў соку, грузавік з 20 тонамі сухога малака, фургон з вялікай партыяй цукерак, зробленых на «Камунарцы», а таксама транспарт з 500 мяхамі бульбы. Усё гэта везлася ў Расію. Цяпер «парушальнікі мяжы» чакаюць суда. Нагадаем, што, згодна з палажэннямі дэкрэта, тавары, як і транспартныя сродкі, будуць канфіскаваныя на карысць дзяржавы, а гаспадары тавару будуць аштрафаваныя на сумы ад 50 да 500 мінімальных заробкаў.

**Міхась КАРПОВІЧ**

## На мяжы

**Аператыўнікі Гомельскага пагранічнага атрада затрымалі 15 верасня дзве групы грамадзянаў Індыі і Бангладэш, якія мелі намер незаконна перасячы дзяржаўную мяжу Беларусі.**

Першая група з 8 грамадзянаў Індыі і 11 грамадзянаў Бангладэш, якія ехалі рэйсавым аўтобусам «Масква—Гомель», была затрыманая ў раёне горада Добруш; другая — 16 грамадзянаў Індыі — у раёне пункта пропуску «Церахоўка» на беларуска-ўкраінскай мяжы. Праводзіцца разбор.

*БелаПАН*



Адкрыццё помніка ў Друі Віцебскай вобласці.





Друйскі касцёл марыянаў, дзе адбывалася святочнае набажэнства з нагоды юбілею ордэна эўхарыстак.

**У МЯСТЭЧКУ ДРУЯ на Браслаўшчыне з'явіўся унікальны помнік каталіцкім святарам — ахвярам камуністычнага і фашысцкага рэжымаў.**

**З 1670 года ў Друі існаваў ордэн марыянаў. Але спачатку сталіншчына, а затым фашысцкія акупанты пачалі знішчэнне святароў, семінарыстаў, манахаў. Мала каму з друйскіх клерыкаў удалося пазбегнуць ГУЛАГа або расстрэлу.**

**Сёлета ў Друі адзначалася і дата заснавання ордэна эўхарыстак. Менавіта ў гэтым беларускім мястэчку 75 гадоў таму ўтварылася новая манаская супольнасць. Друя стала цэнтрам ордэна эўхарыстак. Ахвярныя і працавітыя манашкі заснавалі тут швейную і ткацкую майстэрні, апекаваліся інтэрнатам мясцовай гімназіі, працавалі ў прытулку для адзінокіх людзей, дапамагалі весці гаспадарку айцам-марыянам. Аднак часы рэпрэсіяў і Другая сусветная вайна перапынілі патрэбную працу супольнасці. Многія манашкі вымушаныя былі пакінуць Бацькаўшчыну...**

**Цяпер у свеце шмат манаскіх дамоў сясцёр-эўхарыстак. Нямала іх і ў Беларусі. На святкаванне юбілею з розных гарадоў нашай краіны сабралася каля сотні прадстаўніц гэтага ордэна. Паколькі першы кляштар быў знішчаны, святочнае набажэнства адбылося ў касцёле марыянаў — адзіным ацалелым храме з многіх святыняў старажытнай Друі.**

Анатоль КЛЯШЧУК



На сцяне помніка напісаныя прозвішчы ўсіх закатаваных святароў.




На свята ў Друю прыехалі сёстры-эўхарысткі з усёй Беларусі.

*Чарнобыльская зона*

## Эксперымент на людзях?

**Міністр па надзвычайных сітуацыях Іван Кенік, выступаючы ў Хойніках з нагоды 10-годдзя з дня стварэння Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, заклікаў яго работнікаў *«берагчы сваё здароўе»* і стаць *«узорам, дастойным прыкладам таго, як трэба жыць на бруднай зямлі, выконваючы рэкамендацыі вучоных»*.**

А між тым, людзям патрэбны не рэкамендацыі, а стварэнне нармальных умоў жыцця: чыстае харчаванне і добрая, адпаведаючая працы зарплата. А яна складае ў запаведніку ў сярэднім 2,2 мільёна рублёў. Надбаўка за радыяцыю — усяго 250 тысяч. А што тычыцца харчавання, дык мяса для работнікаў запаведніка нарыхтоўваецца ў вёсцы Стралічава, найбольш забруджанай у Хойніцкім раёне. Капусту, бульбу і буракі ўжываюць свае, вырашчаныя ў зоне.

Таму не дзіўна, што кожны год пры медыцынскім аглядзе ад працы ў «зоне» адхіляецца, як правіла, больш за два дзесяткі чалавек. У большасці з іх урачы знаходзяць сур'ёзныя парушэнні дзейнасці сардэчна-сасудзістай сістэмы.

А.Ж.

*Катаклізмы*

## Ураган уляцеў у капеечку

**Моцныя ўраганныя вятры, што бушавалі над Гомельшчынай 14 і 15 верасня, нанеслі вялікі ўрон сельскай гаспадарцы вобласці.**

Як паведаміў штаб грамадзянскай абароны, пацярпелі больш як 90 населеных пунктаў у 13 раёнах. Пашкоджаныя звыш 70 кіламетраў ліній электраперадач і амаль 20 кіламетраў ліній сувязі. Ад паваленага ўраганам дрэва пацярпела жыхарка Гомеля — з пераломам прадплечча і шматлікімі пашкоджаннямі жанчына трапіла ў бальніцу.

Сёлета Гомельшчыну літаральна сатрасаюць прыродныя катаклізмы. Тры ўраганы і зімовая паводка за 9 месяцаў — такога і старажылы не памятаюць. А што прынясуць палешукам астатнія месяцы года?

Уладзімір ВАЛЕЎСКІ

# З Божай дапамогай...

**«Што занадта, тое — не здрова» — гэтую польскую прымаўку любяць паўтараць і беларусы.**
**Гэта датычыць, між іншым, узаемаадносінаў нашых уладаў з царкоўнымі ўстановамі. Яшчэ нядаўна ў нас насаджаўся пагалоўны атэізм, а сёння з гэткім жа імпэтам кінуліся ў іншы бок.**

### Справы цывільныя

У нашай атэістычнай дзяржаве абавязковае запрашэнне на ўсякія мерапрыемствы святара стала модай. На адным гродзенскім заводзе адрамантавалі сталоўку. І вось ужо начальства разразае стужку, а бацюшка асвячае памяшканне, сцены, мэблю, літаральна нажы з відэльцамі і стравы. Начальства гаворыць прамовы, адзначае, што стравы вельмі танныя і смачныя, ды абяцае ператварыць сталоўку ў рэстарацыю. А між тым, рабочыя гэтага завода хацелі правесці мітынг пратэсту супраць пагаршэння жыцця. Але ім не дазволілі, па сутнасці, прапанаваўшы замест гэтага паўдзельнічаць у паўторным адкрыцці сталоўкі: «у імя айца, сына і святога духа, амінь».

Калі ў абласной псіхіятрычнай бальніцы каля Ліды праводзілася міжнародная канферэнцыя дактароў-псіхіятраў, таксама былі запрошаныя святары. Але тут усё зразумела: лячыць душы толькі лекамі і гіпнозам цяжка. Ды вось ужо ў Лідзе адчыняецца дэпо, дзе рамантуюць чыгуначныя дызелі, і зноў без бацюшкі як без рук. Такое ўражанне, што неўзабаве ні адно мерапрыемства не будзе абыходзіцца без асвячэння, напрыклад, адкрыццё офіса, бензакалонкі альбо ўвогуле новай лініі на піўзаводзе. Ніколі не забуду, як мне давялося прысутнічаць пры асвячэнні бацюшкамі ювелірнай крамы ў Гродне... Хаця ксяндзы таксама ўдзельнічаюць у падобных імпрэзах, але, як правіла, у больш нейтральных — адкрыцці Польскага дома альбо асвячэнні падмуркаў польскамоўнай школы, што адбылося напачатку верасня ў Ваўкавыску. Гэтым летам ксяндзом была асвечаная зямля на магілках у в.Татарцы, дзе былі перазахаваныя парэшткі ўдзельнікаў апошняй вайны, якія былі знойдзеныя пошукавым батальёнам нашага міністэрства абароны.

### Справы вайсковыя

Хаця ў сённяшняй беларускай арміі не існуе інстытута ваенных капеланаў, царкоўнікаў усё больш далучаюць да жыцця войска. Як вядома, начальнік унутраных войскаў генерал Сівакоў нават заключыў пагадненне з праваслаўнай царквой, пад Мінскам будуецца «ваенная» царква. Генералам, канечне, не зразумець аднабаковасці сваіх дзеянняў. А шкада. Надзвычай ненатуральна выглядала цырымонія прыняцця прысягі ў гродзенскай частцы ўнутраных войскаў. Хлопцы тут служаць збольшага мясцовыя, сярод якіх вялікая частка з каталіцкіх сем'яў, але давалі наказ ім добра выконваць службу толькі праваслаўныя святары. Калі задумацца, дык гэта — звычайнае парушэнне правоў асобы.

У краінах больш еўрапейскіх гэта робіцца інакш. Напрыклад, у Войску Польскім да вайны былі капеланы — ксяндзы, бацюшкі, мулы. І сёння ёсць праваслаўны епіскап Войска Польскага генерал Сава. Паступова павялічваецца колькасць праваслаўных парафіяў у войску. Шостая — апошняя паявілася ў Перамышленскім ваяводстве. У польскай арміі служыць прыблізна 15 тысяч праваслаўных, пераважна з Беласточчыны. Такім чынам, апроч каталіцкай большасці, палякі дбаюць і пра праваслаўную меншасць у войску.

Мне вядомы ў нашай арміі толькі адзін канкрэтны прыклад падобнай талерантнасці. У гродзенскай брыгадзе, дзе шмат салдатаў з каталіцкіх сем'яў, па традыцыі стараюцца запрашаць на прысягу і бацюшку, і ксяндза. Сёлета, аднак, адбыўся ў пэўным сэнсе канфуз. Бацюшка, вядома ж, сказаў усё што хацеў — па-руску. А вось ксёндз вырашыў карыстацца толькі польскай мовай. А гэта, як сказаў мне адзін з афіцэраў, па сутнасці, парушэнне. Дзеянне не паводле статута. Як вядома, у РБ дзве дзяржаўныя мовы — руская і беларуская. А па-другое, зусім не значыць, што ўсе каталікі абавязкова палякі. Такім чынам, беларускай мовай пагрэбавалі абодва святары.

Увогуле пры наладжванні кантактаў паміж войскам і царквой адбываюцца даволі незвычайныя рэчы. Лідскі пагранатрад толькі цяпер атрымаў баявы сцяг. Прывёз яго генерал Я.Кавалёў. Сцяг асвяціў бацюшка і ўзяў яго ў свае рукі. Камандзір атрада палкоўнік А.Мендаль апусціўся на калена і пацалаваў сцяг, атрымаўшы яго, такім чынам, з рук святара. Цікава: а ці ўсё тут было згодна са статутам? Ці пакуль усё адбываецца ў падобных выпадках імправізавана?

Сяргей МАКСІМОВІЧ

# Не бедны, але і не багаты

## *Людзі сярэдняга класа вачыма нашага карэспандэнта*

**СЯРЭДНІ КЛАС У БЕЛАРУСІ** уяўляе маленькую праслойку паміж агромністай масай бедных і невялікай колькасцю багатых. І гэтая «праслойка» адчувае сябе ў Беларусі ўсё больш няўтульна.

На пытанне, які чалавек належыць да сярэдняга класа, магчымыя яго прадстаўнікі адказвалі даволі падобна. На думку большасці апытаных, гэта чалавек, які не бедны, але і не багаты. Ён зарабляе дастаткова грошай, каб не мець праблемаў з ежай, адзеннем, жыллём, гадаваннем дзяцей. Што не менш важнае, дадаюць прадстаўнікі новага класа, грошай павінна хапаць, каб выехаць на адпачынак за мяжу ўсёй сям'ёй. Акрамя таго, мусяць заставацца грошы на так званае культурнае жыццё — тэатры, канцэрты, клубы і г.д.

Вось гэтага амаль дастаткова, каб належаць да невялікай праслойкі беларускага сярэдняга класа. Мяжа даходаў на чалавека, якую трэба мець беларускай «сярэднекласавай» сям'і (калі ў яе вырашана «кватэрнае пытанне»), праходзіць *на ўзроўні не менш за 300* долараў у месяц. Верхнюю мяжу правесці даволі цяжка.

### Колькі іх

Калі перавесці дадзеныя афіцыйнай статыстыкі ў цвёрдую валюту, атрымаецца, што колькасць людзей з даходам на члена сям'і ў памеры больш за 120-130 долараў ЗША не перавышае дзесяці 1-2% насельніцтва Беларусі. А гэта не больш за 100-200 тысяч чалавек. Зразумела, што па 300 долараў на чалавека атрымоўваюць нашмат менш сем'яў.

Прадстаўнікі беларускіх кампаніяў, якія гандлююць таварамі, кошт і якасць якіх разлічаны прыкладна на сярэдні клас, сцвярджаюць, што рынак у іх даволі абмежаваны. Колькасць патэнцыйных пастаянных пакупнікоў наўрад ці вышэй за 10-20 тысяч чалавек, прычым большасць з іх — жыхары сталіцы.

Наўрад ці можна лічыць такую невялікую групу насельніцтва асобным класам. Вельмі незаўважна выглядае яна ў параўнанні з масай бедных ці палітычным уплывам і ўладай багатых.

### Хто яны

Сярэдні прадстаўнік нашага сярэдняга класа мае малады ўзрост (не больш за 35 гадоў), трымае свой невялікі бізнес альбо працуе ў прыватнай ці замежнай кампаніі, мае патрыманую, але добрую замежную машыну, звычайна здымае кватэру для сваёй сям'і альбо мае ўласную. Карэспандэнт НАВІНАЎ паразмаўляў з тыповымі мінскімі прадстаўнікамі гэтай праслойкі наконт іхняга жыцця.

**Ігар Э.**, 26 гадоў, працуе ў прадстаўніцтве замежнай кампаніі ў Мінску, добра валодае нямецкай мовай, жанаты, мае дзіця. Жонка таксама працуе.

На ягоную думку, большасць прадстаўнікоў сярэдняга класа ў Беларусі, да якога ён адносіць і сябе, гэта не наёмныя спецыялісты высокай кваліфікацыі з добрымі заробкамі, а перш за ўсё ўладальнікі невялікага бізнесу. У Мінску, у адрозненне ад Масквы, пакуль *«няма рынку высокакваліфікаванага персаналу»*. Таму, *«калі ты прадпрымальнік, ты менш залежыш ад кіраўніцтва і можаш быць больш упэўненым у тым, што твой дабрабыт будзе трымацца на неабходным узроўні і заўтра»*.



*Для людзей, якія імкнуцца да поспеху, Беларусь сапраўды з'яўляецца «опасной зоной».*

З такім меркаваннем не вельмі згодны прадпрымальнік **Сяргей П.** Ён мае невялікую вытворчасць, стварыў некалькі працоўных месцаў. Прыносіць яна не вельмі вялікі прыбытак, але дастатковы для таго, каб лічыць сябе прадстаўніком сярэдняга класа. На ягоную думку, нельга казаць, што сёння ў Беларусі ёсць у каго-небудзь упэўненасць у заўтрашнім дні, тым больш у прадпрымальнікаў. Дарэчы, большасць даходаў, якія атрымоўвае сярэдні клас у Беларусі, па яго словах, не падлічваецца дзяржавай. Большасць «сярэдніх» мае альбо асноўны, альбо дадатковы даход у «шэрым» сектары эканомікі, які не плаціць ці толькі часткова плаціць падаткі. У такіх умовах наш сярэдні клас *«вымушаны быць больш кемлівы, у параўнанні з прадстаўнікамі сярэдняга класа ў іншых краінах»*. І гэта звязанае не толькі з вядзеннем бізнесу. Не менш праблемаў стварае звычайнае жыццё.

*«Праблемы на кожным кроку»*, — кажа прадпрымальнік **Сяргей П.** — *Большасць паслугаў і тавараў у нас разлічаная альбо на вельмі багатых, альбо на вельмі бедных. Заробленыя грошы практычна няма куды з сэнсам патраціць. Немагчыма купіць не вельмі дарагое, але моднае і якаснае адзенне. У Мінску проста няма дзе праводзіць вольны час. Нават дабраякасныя прадукты ў апошні час знікаюць з крамаў»*.

Як гаворыць **Іна Н.**, якая працуе ў сярэдняй гандлёвай фірме начальнікам аддзела маркетынгу, каб набыць нешта не дарагое і якаснае, прыходзіцца ехаць за адзеннем і абуткам за мяжу. *«Адзенне набываецца падчас камандзіровак у Заходнюю Еўропу, на адпачынку. Нехта выязджае нават спецыяльна на «шопінг» у беластоцкія ці варшаўскія крамы»*.

### Хто на Усход, хто на Захад

Амаль усе, з кім даводзілася размаўляць, лічаць, што людзі сярэдняга класа ў сённяшняй Беларусі не маюць перспектываў. Многія з «сярэдніх» будуюць планы наконт пакарэння Масквы, Прыбалтыкі альбо заходніх краінаў. Асноўны накірунак, зразумела, Масква. Вельмі шмат беларусаў — добрых банкаўскіх работнікаў, фінансавых менеджэраў, высокапрафесійных будаўнікоў, журналістаў і прадстаўнікоў іншых каціруемых прафесіяў ужо папоўнілі шэрагі маскоўскага сярэдняга класа. *«Там працай жыць, там патрэбны твае веды і праца, там больш высокія заробкі»*.

Трэба таксама ўлічваць, што, як гавораць мінскія «сярэднія», ім патрэбна не проста любая праца з высокім заробкам, а важна яшчэ каб работа была па душы. Іх цікавіць далейшы прафесійны рост, які не вымяраецца выключна ў грошах.

Між тым, з пачаткам фінансавага крызісу Масква стала губляць сваю прывабнасць. Крызіс найбольш ударыў па сярэднім класе, якому ўжо ёсць што губляць, але які не мае ўплыву на ўладу. Скарачэнне персаналу ідзе ў банках, фірмах, СМІ. Падобнае ж становішча, але ў нашмат меншых маштабах, можна часткова заўважыць і ў Беларусі. Некаторыя фірмы, перш за ўсе сярэднія і невялікія, знаходзяцца на мяжы зачынення, скарацілі альбо скароцяць персанал.

Можна меркаваць, што пагаршэнне становішча толькі паспрыяе далейшаму «экспарту» сярэдняга класа з Беларусі. Прычым, з'язджаюць не таму, што толькі краіна не падабаецца альбо няма дзе адзення купіць. Проста праца гэтых людзей, іхнія веды, якія патрэбны ў кожнай рынкавай эканоміцы, не патрэбныя Беларусі. Але ўлады гэта не бянтэжыць. Такія людзі тут не вельмі патрэбныя яшчэ і таму, што цікавяцца палітыкай — у адрозненне ад бедных, якім няма што губляць, ці багатых, пажаданні якіх улады ўлічваюць перш за ўсё.

**Алесь САДОЎСКІ**

# Мертвая петля

**Константин СКУРАТОВИЧ**



Хорошо бы жить на одну зарплату. Но понятно, что для этого и зарплата должна быть хорошей. А пока большая часть нашего народа крутится в поисках дополнительных заработков, сажает, копает, консервирует... Короче, если вы не чиновник высокого ранга, не хозяйственный руководитель крупного калибра, не вор в законе, то на вашу зарплату хорошо жить невозможно, а порой невозможно и просто прожить.

Но мы уже ко всему этому привыкли. Ведь если зарплата не превышает сто долларов, то и представления о желаемом редко преодолевают планку на уровне двухсот. То есть хотелось бы много всего и всякого, но приходится совмещать желаемое и возможное. Иначе психика не выдержит.

У некоторых, кстати, не выдерживает. В моей родной деревне, что расположена отнюдь не в какой-то там глуши, а под боком у самой столицы, с начала года добровольно ушли из жизни трое мужиков средних лет. Причем только один случай можно объяснить ссорой на почве любви и ревности, два других — пример классической социальной безысходности. Сегодня в белорусской деревне закономерно завершается начатая в прежние годы люмпенизация населения. Люди постарше еще как-то держатся, кормятся, что-то достают-покупают, а молодежь и многие мужчины погибают прямо на глазах.

На семьдесят дворов их осталось не очень и много — что-бы пересчитать, хватит пальцев одной руки. Почти все неженатые: по причине хронического бытового пьянства трудно предположить, чтобы они могли кого-то заинтересовать в этом плане, да и судя по всему, у них самих известная потребность пала жертвой бытовой неустойчивости. Поэтому на селе вновь распространяется послевоенная форма брака, когда относительно молодые женщины-вдовы берут себе бобылей в сожительство. Польза для хозяйства в этом случае вполне может быть, а в случае чего и выгнать не жалко.

Дети — это особая статья. Во-первых, их почти не рожают, а во-вторых, у многих из них последствия пьяных зачатий заметны даже внешне. Так что с гениями, наверное, придется некоторое время подождать.

В общем, порядка в деревне, конечно, нет. Все это не может не шокировать пенсионеров, единственную относительно здоровую в социальном отношении часть сельского общества. Им бы хотелось, чтобы и дети их не пьянствовали, а досматривали дом и хозяйство, и чтобы внуки слушались и уважали. Ничего этого не выходит. Молодежь просто не способна к такой самоэксплуатации, какая требуется для того, чтобы жить на селе если не в достатке, то хотя бы в достойной бедности.

А вырваться за пределы этого идиотизма, отправившись, как в прошлые годы, на заработки в город, невозможно. Все это можно было бы назвать и сегрегацией сельского люда, если бы у нашего государства была бы хоть какая-то социальная политика по отношению к деревне. А ее просто обрекли на самовыживание.

# Что там у нас

## *Российский кризис ударил по Беларуси куда больнее, чем просто по соседней стране*

**Вадим КАЗНАЧЕЕВ**



У российской экономической реформы было единственное, по большому счету, достижение — финансовая стабилизация. Правда, достигнута она была очень оригинальным, невиданным в мире путем: людям попросту не выплачивались заработанные ими деньги. Рано или поздно кризис должен был разразиться. В результате этого кризиса финансовая стабилизация явилась себя колоссом на глиняных ногах.

Советская пропаганда малевала капитализм исключительно черной краской, в окарикатуренном виде. Дескать, трудящиеся бедствуют, с роскошью соседствует нищета, улицы полнятся голодными и бездомными, кучка толстосумов-грабителей наживается на чужом горе, и на их стороне вся мощь государственного аппарата, продажные чиновники, суды и полиция, а посему пролетариату нечего терять, кроме своих цепей. На Западе, конечно, дело обстоит далеко не так — но вот сама Россия, кажется, взяла эти карикатуры за образец и построила у себя капитализм в точном соответствии с ними.

Впрочем, у меня нет намерений подробно останавливаться на причинах российского кризиса — он до основания обсосан в российских же СМИ. Но почему кризис в соседней стране не стал событием номер один и для Беларуси? Почему девальвация российского рубля сразу же повлекла за собой и обвал рубля белорусского? Нет, оно понятно — всё в мире взаимосвязано, российский кризис тоже пытались объяснить перипетиями на зарубежных фондовых рынках. Однако почему наша ситуация зависит от российской настолько непосредственно, напрямую, в такой неимоверной степени?

Советскую пропаганду здесь приходится упомянуть и по другому поводу: она поневоле вспоминается при взгляде на то, как российский кризис освещают наши официозные СМИ. То есть они в принципе работают в советском стиле, но уж материалы о кризисе просто просятся под расхожую рубрику «У нас и у них» — только теперь место Запада в этой рубрике заняла Россия. Материалы о России в наших центральных газетах и на телевидении — прямо как у М.Жванецкого: «У них всё загнивает и рушится, у нас всё строится, строится и строится». Лукашенковские придворные наперебой заговорили о торжестве государственного регулирования перед либеральной экономикой. На самом-то деле свободной экономики в России не было никогда, рынок там забюрократизирован и зависим от чиновников, по каковой причине он и является таким уродливым. Но, какой бы смешной и примитивной ни была интерпре-

